З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Уладзіслаў КАВАЛЁЎ:

# «Амаль паўтара года не гуляў у «жывыя» шахматы»

*Міжнародны гросмайстар з Беларусі паведаміў, што выступіць у Кубку свету.*




**Уладзіслаў Кавалёў** – адзіны беларускі шахматыст, які ўваходзіць у першую сотню лепшых гросмайстраў свету.

Пасля выбараў у мінулым годзе Уладзіслаў падпісаў адкрыты ліст спартсменаў супраць гвалту і за сумленныя выбары. Таксама ён адмовіўся падпісваць дадатковае пагадненне да кантракта з РЦАП па шашках і шахматах, за што быў звольнены з нацыянальнай зборнай.

Уладзіслаў Кавалёў павінен быў удзельнічаць у чэмпіянаце Беларусі, але за некалькі гадзін да старту прыняў рашэнне адмовіцца ад удзелу ў турніры.

*«Гэта было даволі нечаканае рашэнне і для мяне самога,* – распавядаў гросмайстар "Народнай Волі". – *Яшчэ зранку я меў намер удзельнічаць у чэмпіянаце, адмыслова рыхтаваўся да яго і збіраўся стаць пераможцам. Не было ніякіх папярэдніх планаў адмаўляцца ад першынства і рыхтаваць нейкі дэмарш. Але мяне да гэтага падштурхнулі.*

*Падчас адкрыцця чэмпіянату да мяне падышла намеснік дырэктара Рэспубліканскага цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі і ўручыла дадатковае пагадненне да кантрактаў спартсменаў.*

*У дакуменце быў прапісаны шэраг абмежавальных пунктаў, якіх раней не было. Наколькі я зразумеў, гэта было звязана з падзеямі, якія адбыліся ў краіне пасля выбараў, і з тым, што многія спартсмены выказалі сваю пазіцыю, якая адрозніваецца ад «генеральнай».*

*Натуральна, мяне абурылі гэтыя абмежаванні. Мы маем Канстытуцыю, а людзі маюць права на абарону сваіх канстытуцыйных правоў. Чаму нейкія спартыўныя чыноўнікі абмяжоўваюць мае правы?*

*Адным словам, я адмовіўся падпісваць дадатковае пагадненне, за што мяне адразу ж паабяцалі звольніць. Прыйшоў дадому, яшчэ раз усё ўзважыў, пра ўсё падумаў і вырашыў, што такі дакумент падпісваць не буду.*

*Акрамя таго, прыняў рашэнне наогул не ўдзельнічаць у чэмпіянаце. І гэта быў правільны ход. Разам са мной адмовіліся выступаць на першынстве і яшчэ некалькі шахматыстаў».*

Пасля таго як Уладзіслаў Кавалёў звольніўся з цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі па пагадненні бакоў, працаваў сам на сябе. Адкрыў сваю шахматную анлайн-школу, і гэта было пэўнай крыніцай прыбытку.

Зараз спартсмен заявіў, што пасля працяглага перапынку збіраецца выступіць на міжнародных спаборніцтвах.

*«Насуперак усяму я ўсё ж такі буду гуляць у Кубку свету,* – паведаміў Уладзіслаў Кавалёў. – *Зусім хутка ў Сочы пачнецца займальнае спаборніцтва, дзе 206 шахматыстаў з усяго свету будуць змагацца за выхад у турнір прэтэндэнтаў на шахматную карону. А ў далейшым – і за права пазмагацца з чэмпіёнам свету Магнусам Карлсенам. Дарэчы, ён таксама будзе гуляць у гэтым турніры, што дадае цікавасці.*

*Таму я з нецярпеннем чакаю пачатку спаборніцтваў і спадзяюся на поспех, нягледзячы на тое, што амаль паўтара года не гуляў у «жывыя» шахматы.*

*Пажадайце мне поспеху! Ваша падтрымка будзе натхняць мяне на прыгожыя партыі».*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

з Алесем СІВЫМ

# Як Максім Рыжанкоў змагаецца з «няправільнымі» балельшчыкамі

Днямі ў Іспаніі завяршыўся жаночы чэмпіянат Еўропы па баскетболе. Беларуская каманда выступіла нечакана добра, але да медалёў крыху не дацягнула – толькі чацвёртае месца.

І пакуль спецыялісты па паліцах раскладалі спартыўныя хібы і дасягненні ў матчах, старшыня Беларускай федэрацыі баскетбола **Максім Рыжанкоў**, які, акрамя ўсяго іншага, яшчэ і першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, вёў бязлітасную ідэалагічную барацьбу з «няправільнымі» балельшчыкамі.

Справа ў тым, што на трыбуны ў Валенсіі прыйшлі падтрымаць каманду аматары баскетбола з беларускай дыяспары ў Каталоніі. Прыйшлі з бел-чырвона-белымі сцягамі, што Рыжанкова і іншых спартыўных функцыянераў проста разʼюшыла. Час жа такі, што сёння гэты сцяг дзейнічае на дзяржаўных таварышаў, як чырвоны колер на быка. Рыжанкоў – не выключэнне, а таму змаганне з «крамольнай» сімволікай працягвалася на працягу ўсяго турніру.

Чыноўнік так увайшоў у ролю прапагандыста, што ў чаце "Беларусы ў Валенсіі" стаў гаварыць пра тое, што балельшчыкі з бел-чырвона-белымі сцягамі не падтрымлівалі зборную, а жадалі ёй паражэнняў, за што яго проста забанілі.

Не ўпусціў магчымасці кінуць камень у той жа самы агарод Максім Рыжанкоў і пасля пройгрышу зборнай Францыі: *«Дапамаглі так, што прайгралі. Лепш бы спалі дома. Я крайніх не шукаю. Згулялі годна. Калі б не было ануч, пад якімі заўсёды бяда, было б лепш. Вы рэальна думаеце, што гэтыя анучы камандзе ў плюс? Вы ж самі ўсё разумееце. Гэта не падтрымка, а правакацыя...»*

Барацьба са «змагарамі» Рыжанкова-малодшага дасягнула такіх маштабаў, што ён не супакоўваўся і пасля заканчэння турніру: *«Сапраўдным балельшчыкам не трэба ніякіх палітычных акцый і ніякіх палітычных сітуацый, каб падтрымліваць сваю каманду. А тыя, хто шукаў палітыку, ведома, распрацоўвалі план... Былі планы ледзь не прадастаўлення палітычнага сховішча для нашых спартсменаў, калі б баскетбалісткі адмовіліся гуляць за каманду.*

*Былі пытанні ў дачыненні да таго, як падтрымліваць так, каб каманда спатыкнулася і не гуляла наогул. А потым, калі каманда пачала добра гуляць, нашы нядобразычлівцы зразумелі, што іх тактыка шкодная і не прыносіць выніку. Пасля гэтага яны ўзялі тактыку іншую – будзем балець за каманду і крычаць, што яны малайцы. Але вы зрабілі свой выбар ужо ў самым пачатку. Вы паказалі, якія вы сапраўдныя патрыёты і аматары сваёй каманды. На самай справе вы адкрытыя нягоднікі...»*

Як бачым, фантазіі функцыянера дасягнулі амаль касмічных вышынь, але яго добра апусціла на грэшную зямлю адна з лепшых баскетбалістак Беларусі **Алена Леўчанка**, якая вядомая сваёй грамадзянскай пазіцыяй: *«Мець іншае меркаванне, якое адрозніваецца ад «дзяржаўнага», – гэта не палітыка, гэта права кожнага грамадзяніна краіны, якое гарантуецца Канстытуцыяй. Раю перачытаць. Вам жа не кажуць, што толькі ў адну лазню можна хадзіць. Упэўнена, вам падабаецца «разнастайнасць».*

*А наогул, менавіта такія, як вы, і падзяляюць людзей толькі таму, што яны падтрымлівалі не пад тым сцягам, які падабаецца вам. Але яны прыйшлі і падтрымлівалі. Па-сапраўднаму падтрымлівалі зборную з першай гульні. А адзіны «план» – гэта быў ваш план прыцягнуць Міжнародную федэрацыю баскетбола і іспанскую паліцыю, каб людзей проста не пускалі на трыбуны і не дазвалялі балець. Вось гэтая тактыка сапраўды выглядала непаўнацэнна.*

*Калі б не гэтыя балельшчыкі, то падтрымка пасольства і тыя тры чалавекі, якія трымаюць два сцягі, – так сабе падтрымка.*

*І апошняе. У мяне ўзнікла пытанне: хто ж тады сапраўды «адкрытыя нягоднікі» ў гэтай гісторыі?»*

Даволі складана нешта даводзіць чалавеку, які за сваёй прапагандысцкай прасцінай схаваўся, нібы за каменнай сцяной, але хацелася б нагадаць старшыні Беларускай федэрацыі баскетбола адзін гістарычны факт. Быў час, калі менавіта яго бацька **Уладзімір Рыжанкоў**, які ў 1990-я быў кіраўніком Дзяржкамспорту, а затым і Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі, адпраўляў на міжнародныя спаборніцтвы спартсменаў пад бел-чырвона-белым сцягам, які сёння сын называе «анучай». Менавіта пад гэтым сцягам перамагалі спартсмены і гучаў гімн краіны!

Але Рыжанкоў-малодшы пра гэта не ўспамінае і гэта не ўзгадвае. У яго сваё жыццё і свая барацьба...

НА ЗАМЕТКУ

# Как победить пырей: самые эффективные способы



Пырей в представлении не нуждается. Вряд ли найдется дачник, который не проклинал этот вездесущий сорняк, пытаясь избавиться от него на грядках и в цветниках. Фантастически жизнеспособный, превосходно приспосабливающийся практически к любым условиям обитания, чрезвычайно агрессивный – пырей кажется непобедимым.

### Способен расти где угодно

Чтобы справиться с агрессором, давайте познакомимся с ним поближе, чтобы выбрать правильную стратегию борьбы.

***Пырей ползучий*** – многолетнее растение семейства *Злаки (Gramineae).*

Стоит учитывать, что в литературе встречаются разные латинские названия пырея: *Agropyron repens, Elytrigia repens* и *Triticum repens.* И, что любопытно, присутствующее во всех вариантах латинское слово *repens*, помимо используемого в биологии значения «ползучий», переводится также «внезапный, неожиданный» – а ведь и в самом деле пырей умудряется неожиданно появляться там, откуда мы его, казалось бы, полностью изгнали. Почему?

Оказывается, у этого растения очень гибкий подход к размножению. В благоприятных условиях пырей успешно размножается вегетативно. Его длинные, жесткие, сильно разветвленные корневища легко пробиваются сквозь плотную почву и корни других трав, быстро образуя густую, плотную сеть. Корневища разделены узлами, как стебли. На каждом узле – корни и придаточные почки, из которых разовьются новые растения. И даже если в почве останется лишь маленький кусочек корневища, пырей способен очень быстро отвоевать утраченные позиции.

### Успешно размножается корневищами

Если же условия оказываются неблагоприятными, и растению не удается наращивать корневища или накапливать в них питательные вещества, все добытые ресурсы направляются им на формирование колосьев с полноценными семенами. По некоторым данным, одно растение способно дать до 10 тысяч семян. Ветер и птицы разнесут их на значительные расстояния – и вот вам «внезапный и неожиданный» сорняк. Причем всхожесть семена пырея сохраняют до 12 лет!

Тот, кому случалось обрабатывать заросшую пыреем почву, знает, насколько плотную дернину образует это растение. Корневище пырея за сезон способно вырасти на 1–1,5 метра. Ученые посчитали, что на 1 кв.метр запыреенной почвы общая длина корневищ может достигать 400 метров. В рыхлой почве каждое корневище пырея за сезон вырастает на метр, а то и полтора! А одно растение, согласно экспериментальным данным, за тот же срок извлекает из почвы вдвое больше питательных элементов, чем родственница пырея – пшеница. Мало найдется культур, способных успешно противостоять столь прожорливому агрессору.

Надо помнить: корневища пырея очень живучи, поэтому их не следует бросать в компост!

### Быстро вытесняет конкурентов

И этого ему мало: пырей не только отбирает у соседей-конкурентов питание и воду, но и отравляет их, выделяя в почву вещества, токсичные для многих других видов трав.

Он не погибает в засушливый год и не вымерзает в суровые зимы, от него не спасает мульча и не избавляет вспашка. Он способен расти на бедных почвах, не болеет и не поражается вредителями. Даже подсохшие корневища, попав в благоприятные условия, могут дать побеги и укорениться. Где же найти управу на этот сорняк?

### И на агрессора найдется управа

Пырей светолюбив, и в этом его уязвимость. Если затенить растение, наземная часть заметно ослабеет, в результате корневища не смогут накопить питание в достаточном количестве. Ну а слабые корневища в новом сезоне в свою очередь дадут еще более ослабленные побеги.

Как этого добиться? Например, посеять на участке, который вы пытаетесь избавить от пырея, сидераты – вику с овсом или озимую рожь. Они не страдают от его агрессии и при плотном посеве способны подавить рост сорняка. Правда, придется запастись терпением: потребуется не менее двух сезонов такой «заместительной терапии», чтобы освободить территорию от пырея.

Можно пойти другим путем: на тот же срок накрыть участок плотным светонепроницаемым материалом (картон, рубероид, плотная черная пленка и тому подобное). Без доступа света старые корневища истощатся и отомрут, а новые образоваться не смогут.

### Такая мульча не поможет

Учтите, что обычная рыхлая мульча (скошенная трава, солома, опилки и другие подобные материалы) пырею не помеха! Острые «шильца» благополучно пробивают даже толстый слой мульчи, устремляясь к свету, ну а питания и влаги в таких условиях более чем достаточно, поэтому вместо ослабленных, исчезающих мы получим сытые, здоровые и сильные сорняки.

Пожалуй, самый эффективный, хотя и трудоемкий способ борьбы с пыреем – механический: перекапываем почву и вручную как можно тщательнее выбираем корневища, стараясь не оставлять даже крохотных кусочков. После этого на освобожденной площади можно сажать любые культуры. Только с посадкой картофеля лучше повременить хотя бы год: сперва надо очистить землю от проволочника – неизменного спутника пырея.

Но даже после таких радикальных мер расслабляться и праздновать победу рано. Выбрать все до единого кусочки корневища – затея почти нереальная, а из оставшихся, как мы помним, непременно появятся новые захватчики. И появление их желательно заметить как можно раньше, а заметив – тут же удалить росток. Регулярно выпалывая всходы пырея, мы истощаем корневище, и рано или поздно упорство непременно даст плоды.

Можно ли победить пырей при помощи гербицидов? Безусловно. Но, прежде чем прибегнуть к этому способу борьбы, нужно взвесить все за и против.

УСМІХНІЦЕСЯ...

## Адэскія досціпы

* * *

– Роза, а шо вы робіце сёння вечарам?

– Я згодная!

* * *

– Фіма, як вы глядзіце на тое, каб выпіць?

– Уважліва!

* * *

– Аркадзь Аронавіч, і колькі ж вам год?

– Восемдзесят, Раечка, восемдзесят.

– Ой, я б вам ніколі не дала.

– Дык мне ўжо і не трэба.

* * *

– Фіма! Калі цябе сашлюць у Сібір, я паеду з табой! Але футра трэба купіць загадзя!

* * *

– Абрам, пакармі ката. Ён сваімі крыкамі затэрарызаваў увесь квартал!

– Яўрэі патрабаванні тэрарыстаў не выконваюць!

* * *

– Доктар, скажыце, якія зёлкі лепш за ўсё дапамагаюць пры лячэнні дэпрэсіі?

– Самае эфектыўнае лячэнне зёлкамі, Сёма, – гэта крапівой па дупе!

**Сабраў Лявон ЦЕЛЕШ.**

**г.Дзяржынск.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 326-68-71
Рэкламны аддзел (017) 363-66-04
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ